

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.*

№11 (193) ЛІПЕНЬ 2015 ГОД

ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

## ПРА ПЯТЫ ТЭРМІН І “ПАЖЫЦЦЁВЫ ТРОН”

**Ці заўважылі вы, калі асабліва нервуецца дзейсны ў краіне прэзыдэнт? Не? Не бачылі. Ён не нервуецца – ён перажывае за лёс краіны, кажаце вы! Паспрабую вас пераканаць, што нервуецца, хаця, як па мне, дык дарэмна.**

І хаця напружвацца прыходзіцца ўсяго адзін раз у пяць гадоў пад час чарговых выбараў, гэта непрыхаванае нерваваньне расцягваецца для Яго на некалькі месяцаў. Трэба адзначыць: моцны арганізм усенародна абранага выдатна спраўляецца з дыскамфортам. Нічога не папішаш: «тяжела ты, шапка Мономаха». А быць Манамахам, а-ёй, як хочацца! Не для сябе, зразумела! Для народа, канечне. І народ гэта разумее: « калі не Ён, то Хто»!? Не Ката ж Барсіка выбіраць прэзідэнтам! Дадумацца было! Барсіку ў рэгістрацыі Ярмошына адмовіла! На яе думку, такія ўчынкі не сведчаць аб «дэвальвацыі выбараў». Маўляў, пажартавалі, нікога не абразілі. Але ж падсвядомасць не падманеш і дзядулю Фрэйда таксама: гэткія фразы наконт « дэвальвацыі» самі па сабе ў прамы эфір не выскокваюць і ў дзесятку не трапляюць.

Праўда, Лукашэнка час ад часу абяцаў не перайсці занадта доўга, але пакуль не бачна, каб кіраўнік краіны збіраўся аддаць пульт кіравання. Калі ў гэтым годзе ён зробіць чарговую "элегантную перамогу", то гэта будзе яго 5-ты тэрмін.

Сам Лукашэнка неяк год таму казаў: “Я, можа быць, цьху-цьху, не дай бог, не дажыву да гэтага. Што вы ўсе перажываеце за мой 5-ты тэрмін?”

І наогул уся наша існая тут сітуацыя з выбарамі, фінансамі, ды і не толькі – суцэльная дэвальвацыя. Думаем адно, гаворым другое, робім трэцяе, чорнае выдаем за белае, белае за чорнае – абы ціха, абы не так, як ва Ўкраіне, абы не было вайны, абы не на Захад, навекі з Расеяй, абы на хлеб хапала, раней і гэтага не было, галодныя па вуліцах не ходзяць, ім там, наверсе відней, бацька ведае, што робіць, ад нас нічога не залежыць... Фразы, што навязлі ў зубах ці не кожнага сярэднестатыстычнага беларуса, паўстаюць ланцугамі, што не дазваляюць разняволіцца, пачаць думаць, разважаць, дзейнічаць, змяняць. Пераменаў палохаецца не толькі кіраўнік існай тут дзяржавы. Выходзіць ён паўстае, як люстра народнай свядомасці! Усе жадаюць захаваць тое, што ёсць!?

А што ёсць? Ёсць: сусветныя рэкорды па інфляцыі; жыццё ў доўг ( кожны беларус вінен крэдыторам касмічныя для большыні сумы, але не ведае пра гэта); заводы, што выпрацоўваюць неканкурэнтназдольную прадукцыю; мізэрныя пенсіі; моладзь, пазбаўленая пэрспектываў; несамастойнае кіраўніцтва краіны, залежнае ад расейскіх крэдытаў; бізнэс, што збягае ў суседнія краіны... Пералік можна доўжыць да бясконцасці.

Бессэнсоўнасць тутэйшага існавання, безумоўна, ўражвае, але напружвае толькі тых, хто прагне перамен, астатнім і так утульна. Жыццё і выбары ператварыліся ў суцэльны фарс! І што з таго? Няпраўда, усё вы выдумваеце, кажуць памяркоўныя тутэйшыя людзі. Удумайцеся: у ініцыятыўнай камандзе Лукашэнкі 10 тысяч чалавек, якія мусяць сабраць 100 тысяч подпісаў, то бок кожнаму трэба сабраць 10 подпісаў і іхні кандыдат « у дамках». Гэткія абставіны самі па сабе нагадваюць прафанацыю і тую самую дэвальвацыю, пра якую казала Ярмошына. Да таго ж яны выступаюць, як факт прыніжэньня астатніх кандыдатаў у прэзыдэнты. Маўляў, напружвайцеся, а мы з вас пасмяёмся. Але ж гэткія паводзіны выдаюць і непрыхаванае імкненне прэзідэнцкіх іміджмейкераў спадабацца свайму босу, падвысіць ягоную самаацэнку ды пацешыць ягонае самалюбства. Па сутнасці, гэта дробныя, мізэрныя гульні гарэзлівых падлеткаў, якія выраслі, але не пасталелі. А ўспомніце мінулыя выбары. Тады «нязменны кіраўнік дзяржавы» нават не апусціўся да таго, каб выступіць нароўні з астатнімі кандыдатамі на прэзыдэнта па тэлебачанні, уступіць з імі ў дэбаты, засведчыць сваю здольнасць да рэальнай канкурэнцыі. Тое самае, не сумняваюся, будзе і сёлета. А што гэта , як не прыкметы непрыхаванага нервавання? Але ж для электарата гэта не аргументы! Для іх аргументам не зяўляецца і той факт, што за апошнія 20 гадоў Беларусь так і не стала самастойнай краінай, незалежнай ад расейскіх нафтадолараў. Кажуць, а што ў нас ёсць? Калійная соль і крыху нафты! І ўсё!

З аднаго боку кажуць – «захаваем тое, што ёсць!», з другога « а што ў нас ёсць?». Выходзіць ізноў па Фрэйду: народ нават не ведае, што ў яго ёсць! Хаця дзве рэчы, як мінімум, ён ведае: у яго ёсць « стабільнасьць» і «прэзідэнт», якому яшчэ кіраваць і кіраваць. Ну, скажам, як таму ж Мугабэ, якому 91 год, а ў 2018 ён мяркуе ісьці на чарговы прэзідэнцкі срок! Дарэчы, там таксама дэвальвацыя, самая вялікая ў свеце. Вам хочацца, каб Беларусь параўноўвалі з Зімбабвэ? Мне не.

Але ж самае галоўнае – усё калі-небудзь заканчваецца, але ж страчанных дарма часінаў ніхто не верне і не даруе. Самае галоўнае нашчадкі не даруюць. Не даруюць таму, што ім прыйдзецца перарабляць і рабіць нанова тое, што не зрабілі іхнія продкі, якім не хапіла розуму, волі, адказнасьці перад будучымі пакаленнямі. І што ім з таго, што іхнія бабулі і дзядулі хацелі нейкай амаль магічнай, але далёкай ад рэальнасці « стабільнасці»? Для іх «прэзідэнт» атаясамліваўся са «стабільнасцю», але ці не замала для паўнавартаснага чалавечага жыцця? Відавочна, замала. Таму ён і нервуецца, бо прапанаваць больш яму няма чаго.

Як бы там ні было, але ясна адно: многія людзі болей баяцца не абсалютнай ўлады аднаго чалавека. Няўпэўненых у сябе і разгубленых новымі павевамі часу прыгнятае боязь пераменаў, боязь, што сітуацыя зменіцца і стане яшчэ горш, што прыйдзе хаос. Таму для іх лепш “манархія”, чым “анархія”.

**Алесь Шумскі**

---

***ПАРТАЛ ТВАЙГО ГОРАДА: HTTP://SHUMILINA.BY***

---

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

## ЧАМУ НІЗКАЯ ЎРАДЖАЙНАСЦЬ БУЛЬБЫ?

**У Шумілінскім раёне, як і амаль на ўсёй Віцебшчыне, ураджайнасць бульбы ў мінулым годзе была не вышэй за 150 цэнтнераў з кожнага гектара.**

Беларусы сярод сусветных лідэраў па спажыванні бульбы. Для жыхароў Беларусі бульба - аснова самазабеспячэння харчаваннем. Да 180 кілаграмаў на чалавека выкарыстоўваецца ў ежу. Бульба як корм дазваляе атрымліваць на душу насельніцтва да 20 кілаграмаў мяса і 40 літраў малака. Але пры гэтым гаспадаркі штогод скарачаюць плошчы "пад бульбу".

Большасць сельгаспрадпрыемстваў краіны, у тым ліку і нашага раёна, адчуваюць фінансавыя праблемы. Дзяржава ў сваю чаргу таксама не дапамагла палепшыць ураджайнасць бульбы. З-за дарагоўлі хімічныя прэпараты для абароны пасеваў, напрыклад, ад фітафтарозу (знішчэнне бацвіння) - шматлікім практычна не даступныя. Таксама растуць цэны на ўгнаенні і гатункавую бульбу.

У мінулым годзе для гэтых мэтаў было выдзелена 310 тысяч гектараў. Падчас прыходу да ўлады Аляксандра Лукашэнкі лічба была ў 2,5 разы больш.

Усяго за мінулы год было сабрана 6,28 мільёна тон бульбы - у сярэднім па 204 цэнтнера з кожнага гектара. Дзе зямля зрабіла лепшы ўраджай? Белстат апублікаваў дадзеныя па ўраджайнасці бульбы ў розных раёнах краіны. Лічбы не выглядаюць абсалютнай ісцінай, так як не ўлічваюць валавы збор.

Напрыклад, у раёнах-лідэрах - Гродзенскім, сабралі бульбы ў пяць разоў менш чым у Воранаўскім. Аднак у рэйтынгу ацэньвалася менавіта ўраджайнасць.

Топ-5 самых ураджайных раёнаў (цэнтнераў бульбы з гектара)
1. Гродзенскі 395
2. Клічаўскі 380
3. Нясвіжскі 370
4. Бабруйскі 367
5. Астравецкі 365

Топ-5 самых неўрадлівы раёнаў (цэнтнераў бульбы з гектара)
1. Касцюковіцкі 54
2. Расонскі 61
3. Браслаўскі 66
4. Хоцімскі 79
5. Лёзненскі 87

Характэрна, што ў трох раёнах Беларусі - Кармянскім, Круглянскім, Дрыбінскім - бульбу не вырошчваюць зусім.

**Ян Вайтовіч**

АРХЕАЛОГІЯ

## ВАЛАНЦЁРСКІЯ ЛЕТНІКІ

**Археалагічная экспедыцыя "Палатыда" 21 ліпеня – 8 жніўня запрашае жадаючых прыняць удзел у археалагічных раскопках і абяцае "экзатычны адпачынак" на Дзвіне.**

Арганізатары абяцаюць "экзатычны адпачынак на Дзвіне": усіх, хто вырашыць адправіцца на "Палатыду", чакаюць археалагічныя раскопкі, жыццё ў палатках і "паляванне на маманта". Першыя археолагі прыехалі сюды ў 1998 годзе, а цяпер кожны год там збіраецца цэлы легіён валанцёраў.

Першыя прадстаўнікі экспедыцыі ўжо знаходзяцца ў вёсцы Слудашы Обальскага сельсавета. Увогуле, "Палатыда" - даўно праверанае месца для тых, хто прагне паспрабаваць сябе ў ролі археолага-першаадкрывальніка.

Падрабязная інфармацыя па тэлефоне +375 29776 26 75

**Уладзімір Амбросаў**

ЭКАНАМІКА РАЁНА

## НЕ ПЛАЦЯЦЬ ЗАРПЛАТУ

**У Шумілінскім раёне колькасць прадпрыемстваў-даўжнікоў паранейшаму не зніжаецца.**

У Беларусі на 1 чэрвеня 2015 года ў 444 арганізацыях мелася пратэрмінаваная запазычанасць па заработнай плаце перад 75,9 тыс. работнікамі.

Сума пратэрмінаванай запазычанасці склала 300.6 млрд. рублёў і ў параўнанні з пратэрмінаванай запазычанасцю на 1 мая 2015 г. павялічылася на 45,5%, або 94 млрд. рублёў .

Прадпрыемствы Шумілінскага раёна, якія дапусцілі запазычанасць па зарплаце:
1. ААТ "Обальскі керамічны завод"
2. ААТ "Лаўжанскае"
3. КУСГП "Сіроцінскі"
4. КУСГП "Ульскі"
5. КУСГП "Мішневічы"
6. ААТ "Аграбаравінка"
7. ААТ "Прыдзвінскі"
8. ААТ "Ляжні"
9. ААТ "Прыазёрны мір"
10. КУВП "Шумілінскі райаграсэрвіс".

Нагадаем, што рэкорд хранічнай запазычанасці па заробках на Шумілінршчыне быў зафіксаваны ў пачатку красавіка 2015 г.

**Ян Вайтовіч**

ФУТБОЛ

# НАШЫ ФУТБАЛІСТЫ ПЕРШЫЯ У ВОБЛАСЦІ

**У суботу 18 ліпеня на гарадскім стадыёне ФК "Шуміліна" разграміў віцебскую футбольную каманду "Газавік", якая была адным з лідэраў чэмпіянату Віцебскай вобласці.**

У заключным матчы першага круга чэмпіянату вобласці па футболе шумілінцы прымалі на сваім полі гасцей з Віцебска - футбольную каманду "Газавік".

Па сутнасці, адбылася прынцыповая гульня двух лідэраў: рэальнага, вядучага гульню на высокім ўздыме і агульнапрызнанага, аднак які ўжо вось ужо тры туры паказваў невыразны футбол. Сустрэча завяршылася нечакана для ўсіх.

Адразу ж з першых хвілін паядынку шумілінцы арганізавалі лавіну нападаў на вароты суперніка. Аднак толькі бліжэй да сярэдзіны тайма віцебскія "газавікі" прыйшлі ў сябе, актывізаваліся і правялі пару сваіх відовішчных контратак, але якія завяршыліся недакладнымі ўдарамі. А ў канцы першай паловы гульні нашы гаспадары поля ўключылі прэсінг і нават не далі суперніку прыняць мяч.

У адной з атак Міхаіл Шапавалаў выйшаў адзін на адзін з брамнікам, тэхнічна яго абыграў, але быў ім збіты. Рушыла ўслед пакаранне парушальніку: жоўтая картка і пенальці, які прабіваўся тройчы(!). Два дзейсных ўдара Рамана Івашкевіча былі дакладныя, аднак галы не былі залічаны арбітрам, а трэці - брамнік парыраваў.

А са стартам другой паловы гульні шумілінцы напорыста пайшлі наперад. Неўзабаве Сяргей Баранчук абводзіць абаронцаў і забівае першы гол. Праз 5 хвілін вызначыўся Аляксандр Рудакоў, прабіўшы штрафны – лік становіцца 2: 0 на карысць ФК "Шуміліна". Затым мяч забівае Міхаіл Шапавалаў, наступны гол Артура Гугіна даводзіць кошт да 4: 0.

У канцы паядынку "газавікі" зноў парушаюць правілы: збіваюць з ног Сяргея Баранчука і Міхаіла Шапавалава.

Віцебскага гульца выдаляюць, прызначаны штрафны. Дакладны ўдар Шапавалава пад радасць трыбун ўсталёўвае канчатковы лік - 5: 0!

Шмат падзяк заслужыў і наш брамік Аляксандр Маслюк, які правёў першы "сухі" матч у сезоне.

Перамога над "Газавіком" дазволіла ФК "Шуміліна" заняць першае месца ў групе "А" па выніках першага круга абласнога першынства. Прычым форвард Міхаіл Шапавалаў, які забіў сем мячоў, узначаліў бамбардзірскіх гонку.

Пасля сямі гульняў у ФК “Шуміліна” стала 18 ачкоў і першае месца ў чэпіянаце Віцебскай вобласці па футболу пасля першага круга.

**Алесь Прыбярэжны**

ЗДАРЭННІ, КРЫМІНАЛ

# ТРОЕ МУЖЧЫН АБКРАДАЛІ ПОШТЫ

**Следчы камітэт завяршыў расследаванне крымінальнай справы ў дачыненні да членаў злачыннай групы, якія ў пачатку гэтага года здзейснілі серыю крадзяжоў з аддзяленняў сувязі.**

Пра гэта паведаміла афіцыйны прадстаўнік рэгіянальнага УСК Іна Гарбачова.

Зламыснікі дзейнічалі на тэрыторыі Шумілінскага і Верхнядзвінскага раёнаў. Вечарам ці ноччу прыязджалі да пошты на адным і тым жа аўтамабілі і, пашкодзіўшы вокны і рашоткі на іх, пранікалі ў адміністрацыйныя будынкі раённых вузлоў сувязі. Выкрадалі не толькі грошы, але і прадукты харчавання, прамысловыя тавары.

Па падазрэнні ў здзяйсненні злачынстваў затрымалі траіх жыхароў Полацка. 26-гадовы хлопец быў пяць разоў судзімы за ўчыненне маёмасных злачынстваў. Яго 25-гадовы зямляк раней здзейсніў гвалт у дачыненні да службовай асобы. У кампанію таксама ўваходзіў 28-гадовы мужчына, без судзімасцяў.

Удзельнікаў групы затрымалі падчас падрыхтоўкі да здзяйснення чарговага аналагічнага злачынства.

На допыце абвінавачаныя растлумачылі, што раённыя вузлы паштовай сувязі, як правіла, не абсталяваны відэаназіраннем, на будынках не ўсталяваная ахоўная сігналізацыя, а замкі не надзейныя. У адрас прадпрыемства "Белпошта" следчыя накіравалі прадстаўленне аб ліквідацыі гэтых прычын.

Распачата крымінальная справа па ч. 1 арт. 14, ч. 3 арт. 205 КК - "Замах на таемнае выкраданне маёмасці, здзейсненае паўторна, групай асоб, у буйным памеры". Яно перададзена ў суд.

**Сяргей Горкі**

# ШЛЯХ АДКРЫТЫ ДЗЯКУЮЧЫ ЗАЎЗЯТАРАМ

**ФК "Шуміліна" трапіў у лік 9-ці каманд, якія ўдзельнічаюць у розыгрышы Кубка Віцебскай вобласці па футболе. Для гэтага неабходна было адшукаць 2,5 млн. руб. ўступнага ўнёску, неабходных для ўдзелу ў турніры.**

Цяперашні розыгрыш Кубка-2015 пройдзе аналагічна леташняму. На сённяшні дзень вызначаны спіс футбольных каманд кубкавых матчаў:

1. ФК "Шуміліна"
2. "Дарожнік" (Лепель)
3. ПС "Сянно"
4. "Полацкгаз" (Полацк)
5. "Энергетык" (Навалукомль)
6. "Дынама" (Лёзна)
7. "Газавік" (Віцебск)
8. "Прамень (Гарадок)
9. "Прыазерье" (Верхнядзвінск)

Сямёра каманд збіралі сродкі для ўдзелу ў Кубку вобласці -2015 літаральна з "працягнутай шапкай" па шэрагах неабыякавых людзей.

Вось такое паведамленне было размешчана на старонцы Вконтакте ФК "Шуміліна".

"Не спадзяючыся на надвор'е з мора (усе мы ведаем пра цяжар бюджэтнага фінансавання) ды і не маючы часам яе чакаць (тэрмін аплаты - да 10 жніўня), пасля калегіяльнага абмеркавання было прынята рашэнне паспрабаваць сабраць (чытай« адназначна сабраць »:) сваімі сіламі і сіламі заўзятараў і іншых неабыякавых суму на ўнёсак за ўдзел ФК «Шуміліна» у Кубку Віцебскай вобласці па футболе 2015 у памеры 2.500.000 руб.!

Таму: звяртаемся да ўсіх, хто гатовы ўнесці свой сціплы або няма ўклад у гэту добрую справу. Любая дапамога будзе карысная і з удзячнасцю прынятая. Хай гэта будзе хоць 20 тысяч ад заўзятара або 120 тысяч - ад гульца, калі мы згуртавацца, то колькасць перарасце ў якасць!

Каб мы маглі дапамагчы камандзе выкарыстоўваць свой шанец, прапануецца тры варыянты, а менавіта:

1. Пералік (з карты на карту, праз АРІП, праз аддзяленні банка і г.д.) грашовых сродкаў на рахунні пластыкавых картак (мэтавае выкарыстанне, прадастаўленне справаздач і выпісак ў фотоформате гарантуецца трымальнікамі пластыкавых картак):

БЕЛАРУСБАНК нумар карты 9112 0000 6924 5104 тэрмін дзеяння 05/17 (Вадзім, +375 29518 71 07 + 375 29518 71 07)

АЛЬФА-БАНК нумар карты 4585 2170 8609 6281 тэрмін дзеяння 11/16 (Оля, +375 29646 99 70 + 375 29646 99 70); паступлення адсочваецца з дапамогай смс-абвесткі. "

Вялікая ўдзячнасць добрым людзям! Прычым нягледзячы на тое, што сума перавысіла 2 млн. 500 тыс., Збор сродкаў працягваецца. Грошы ў будучыні ўсё роўна будуць патрэбныя (напрыклад, на новую форму для футбалістаў), нават калі арганізатары турніру выдзеляць сродкі на Кубак.

Ужо былі вызначаны сапернікі і гаспадары палёў ўсіх кубкавых матчаў ўсіх стадый турніру:

1/8 фіналу

26 ліпеня

ПС "Сянно - Дарожнік (Лепель)

1/4 фіналу

1-2 жніўня

2. Пераможца гульні №1 - ФК "Шуміліна"

3. "Полацкгаз" (Полацк) - "Энергетык" (Навалукомль)

4. "Дынама" (Лёзна) - "Газавік" (Віцебск)

5. "Прамень (Гарадок) -" Приозерье "(Верхнядзвінск)

1/2 фіналу

8-9 жніўня

Пераможца гульні №2 - Пераможца гульні №3

Пераможца гульні №5 - Пераможца гульні №4

Фінал

Пераможца гульні №6 - Пераможца гульні №7

Дата правядзення першага кубкавага матчу прызначаная. Астатнія даты правядзення ўсіх матчаў ўдакладняюцца і будуць узгоднены пасля абмеркавання з прадстаўнікамі камандаў 27 ліпеня.

**Алесь Прыбярэжны**

ЛЯСНАЯ ГАСПАДАРКА

# ЗНЯТА ЗАБАРОНА НА НАВЕДВАННЕ ЛЯСОЎ

**Па стане на 15 ліпеня ў Шумілінскім раёне, як і ў іншых раёнах Віцебшчыны знята забарона на наведванне лясоў - паведамляе прэс-служба Мінлясгаса.**

Спякота стала адступаць і ўжо з 14 ліпеня ў Віцебскім, Бешанковіцкім раёнах, а таксама Бягомльскім лясгасе Докшыцкага раёна дазволілі наведваць лес. На сённяшні дзень забарона таксама зняты яшчэ і ў астатніх раёнах Віцебшчыны - пра гэта паведаміў сайт Мінлясгаса.

Аднак нягледзячы на адмену абмежаванні на наведванне лясоў грамадзянам неабходна выконваць асцярожнасць пры выкарыстанні агню ў лясных масівах і ўстрымацца ад падпальвання сухой расліннасці. Згодна з арт. 15.29. КаАП Парушэнне патрабаванняў пажарнай бяспекі ў лясах або на тарфяніках альбо забароны на іх наведванне, якое не пацягнула прычыненне шкоды, цягне папярэджанне або накладанне штрафу ў памеры да дваццаці пяці базавых велічынь. Згодна з арт. 15.58. КоАП распальванне вогнішчаў у забароненых месцах цягне папярэджанне або накладанне штрафу ў памеры да дванаццаці базавых велічынь.

Таксама неабходна выконваць патрабаванні заканадаўства пры нарыхтоўцы ягад і грыбоў. Згодна з правіламі грамадзяне могуць ажыццяўляць збор грыбоў і ягад без дазваленных дакументаў. Абмежаванні ўстаноўлены па спосабам збору.

Прызборыягадзабараняецца прымяняць розныя механічныя прыстасаванні (шуфлікі, грабянцы і г.д.). Забараняецца зборы ягад брусніц з утрыманнем недаспелых ягад больш за 1 працэнт ад сабранай масы; ягад журавін - больш за 5 працэнтаў ад сабранай масы. Таксама збор грыбоў павінен вырабляцца спосабамі, не якія наносяць шкоды грыбніцы. Забараняецца адабранне грыбоў лісічак з памерам капялюшыкі менш за 1,5 сантыметра ў дыяметры.

**А. Прылуцкі**

## АБ’ЯВА

*• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым–зрабіцебесплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

***• Калі прачыталі “Світанак”, то калі ласка, перадайце знаёмым.***

*• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html для далейшага выкарыстання яшчэ да з’яўлення газеты на паперы.*

ПРАВА ВЫБАРУ

# ВЫБАР НАРОДА, БЕЗ УДЗЕЛУ НАРОДА

**Артыкул 3 Канстытуцыі абвяшчае, што адзінай Крыніцай дзяржаўнай улады і носьбітам суверэнітэту Беларусі з'яўляецца народ. Народ ажыццяўляе сваю ўладу непасрэдна праз прадстаўнічыя і іншыя органы ў формах і межах, вызначаных Канстытуцыяй.**

Якія выдатныя і галоўнае зразумелыя словы! 11 кастрычніка пройдзе знамянальная падзея ў жыцці Рэспублікі Беларусь. Народ, выкарыстоўваючы сваё канстытуцыйнае права, абярэ на бліжэйшы 5 гадоў кіраўніка краіны, якому даверыць частку сваіх правоў і паўнамоцтваў. Для гэтага шмат не трэба - трэба проста прыйсці і прагаласаваць. А каб не было сумневаў у выніках выбараў, іх трэба правесці адкрыта і галосна, паводле выбарчага заканадаўства.

Але калі даходзіць да справы, зыходзячы з вопыту назірання за папярэднімі выбарамі (ад фарміравання выбарчых камісій да падліку галасоў), разумееш, не вельмі-то і патрэбен народ для вызначэння вынікаў галасавання.

У камісіі трапляюць «праверaныя байцы», якія ходзяць пад сцягамі лаяльных арганізацый «Белая Русь» і БРСМ, а таксама палітычных арганізацый тыпу Беларускай сацыяльна-спартыўнай партыі ці Аграрнай партыі. Але калі прыглядзецца бліжэй і вывучыць месцы працы чальцоў гэтых партый і арганізацый, то замест спартсменаў, камуністаў і «камсамольцаў» апынецца - «О, цуд!» - працоўны калектыў сярэдняй школы, альбо прамысловага прадпрыемства.

Як правіла, кіруе такой камісіяй альбо дырэктар, альбо яго намеснік, а ў якасці сакратара кантралёра, каб усё праходзіла як трэба, але толькі не ў адпаведнасці з Канстытуцыяй, - прадстаўнік мясцовага выканкама.

Падлік галасоў - гэта асобная песня. Здавалася б, прасцей простага ўзяць бюлетэнь выбаршчыка і паказаць усім сябрам камісіі, а таксама назіральнікам, за якога кандыдата чалавек паставіў галачку. З гэтым справіцца любы школьнік, аднак, як паказвае вопыт назірання за выбарамі, з гэтым не могуць справіцца дарослыя людзі, якія часта вучаць тых жа школьнікаў.

Вось і думаеш, чаму яны могуць навучыць падрастаючае пакаленне, калі самі не могуць выканаць артыкул Выбарчага кодэкса, дзе гаворыцца аб адкрытасці і галоснасці выбараў. Атрымліваецца, што вучаць ўтоенасці, хітрыкаў, падману? Няма! Няма! І яшчэ раз няма!

Кожны член камісіі лічыць свае бюлетэні і раскладвае іх па стосах, а затым шэптам або паперкай паведамляе старшыні камісіі свае вынікі (чамусьці заўсёды шэптам і заўсёды індывідуальна). Старшыня камісіі запісвае іх, а затым разам з сакратаром, які часцей за ўсё аказваецца кантралёрам ад выканкама, сумірующь і абвяшчаюць вынік выбараў на ўчастку! Колькі ж людзей за каго прагаласавала, не ведаюць ні назіральнікі, ні, як ні дзіўна, шараговыя сябры камісіі ...

Як з гэтым змагацца? Кожнаму з нас трэба зрабіць першы крок - стаць назіральнікам на прэзідэнцкіх выбарах ад кампаніі назірання «Правa выбару-2015». Толькі разам можна змяніць гэтую заганную сістэму і зрабіць так, каб выбар народа ніхто не змог выкрасці.

**Алесь Сілкоў**




НАША ЎЛАДА

# ДЕПАРДЬЕ КАК ПРИГОВОР

**Нет, это не шутка. Президент Беларуси приглашает известного французского актера, чтобы поговорить о сельском хозяйстве и научить косить траву.**

Если честно, мне сложно понять мотивы обоих участников этого загадочного действа. Пиар? Так ладно бы французского гостя сводили в театр и познакомили с лучшими образцами белорусского искусства. Любимый многими актер потом прилюдно бы восхитился, СМИ радостно написали, электорат поставил бы галочку в списке "уважаемых" друзей руководителя.

Но нет. Депардье зачем-то тащат (или он сам туда тащится) в коровник, где восхищается бабами и молоком. А на закуску получает мастер-класс "навыков ручной косьбы" от президента.

Зачем это нужно Депардье и главное — зачем это нужно Александру Лукашенко, у которого на носу очередные выборы, для меня загадка. Неужто Депардье в коровнике и с косой — это хорошая иллюстрация достижений белорусского лидера? Или в стране, кото-рую сотрясает серьезнейший кризис, нет сейчас более важных проблем чем научить экстравагантного актера косьбе? На месте министра сельского хозяйства я бы, кстати, напряглась…




Хотя последние сообщения с политических полей, все больше напоминают какое-то затянувшееся 1 апреля. Вспомнить хотя бы недавний прием вице-президента Зимбабве по прозвищу «Крокодил», с которым глава Беларуси собрался всесторонне сотрудничать.

В общем, с чувством юмора у властей, похоже, все в порядке. Хотелось бы оценить и остальные навыки. А то еще немножко — и Депардье с косой станет приговором для белорусской экономики.

**Светлана Метёлкина**

НАШЫ МІЛЬЯНЕРЫ

# НА ЧЫМ ЗАРАБЛЯЮЦЬ БЕЛАРУСКІЯ МІЛЬЯНЕРЫ?

**Плынь турыстаў, якія прыязджаюць на адпачынак у Беларусь, змялела праз крызіс у Расіі. Аднак патэнцыял «цуду некранутай прыроды» застаецца вялікім. Яго спрабуюць выкарыстоўваць беларускія мільянеры. Якія праекты яны рэалізуюць і колькі плацяць у бюджэт за арэнду лясоў і азёр?**

**Возера Машэнскага**

Вось ужо некалькі гадоў жыхары Брэста наракаюць, што не могуць адпачыць на сваім любым Белым возеры. На вадаём, які знаходзіцца за 35 км ад абласнога цэнтра, іх не пускаюць ахоўнікі: маўляў, прыватная тэрыторыя.

Зямлёй карыстаецца самы вядомы брэсцкі бізнэсмен — Аляксандр Машэнскі, уласнік рыбнага «Санта-Брэмара» і малочнага «Савушкавага прадукту».

Яшчэ ў 1990-я гэтыя 2,5 гектара водааахоўнай зоны Белага возера атрымала Брэсцкая райспажыўкааперацыя, аднак у 2008 годзе перапрадала яе Машэнскаму, які вырашыў заняцца турыстычным бізнэсам.

Непадалёку ад возера ён пабудаваў люксавую базу адпачынку «Шале Грынвуд» (можна перакласці як «сельскі домік у швейцарскім стылі, пабудаваны ў зялёным лесе»). Гэта два дзясяткі гатэльных нумароў, а таксама рэстаран італьянскай кухні і лазня. За начоўку гаспадары просяць нямала — $ 80. Аднак госці застаюцца задаволенымі. У папулярным інтэрнэт-каталогу гатэляў booking.com «Шале Грынвуд» мае адзнаку 9,4 па 10-бальнай сістэме.

Машэнскі наракаў, што яму давялося ўкласці шмат грошай у інфраструктуру. Аднак умовы, на якіх ён летась атрымаў у арэнду яшчэ 8,5 гектара зямлі, выглядаюць звышвыгаднымі. За велізарны абшар лесу з выхадам да возера бізнэсмен плаціць… каля $ 110 на месяц. Дамова арэнды заключаная на 100 гадоў у беларускіх рублях, такім чынам, інфляцыя патрохі з'ядае і гэтыя грошы.

**Яхт-клуб Тапузідзіса**

Грэк Павел Тапузідзіс, які нарадзіўся ў Грузіі, таксама аблюбаваў беларускія азёры.

У канцы 2000-х ён узяўся пабудаваць аздараўленчы комплекс на возеры Мядзел, суседнім з Нараччу. Аднак у выніку атрымалася толькі нешта падобнае на прыватную рэзідэнцыю. Адпачыць звычайнаму турысту на турыстычнай базе Тапузідзіса не ўдасца. За 90 сотак, адведзеных для будаўніцтва, кампанія «Тытунь-Інвест» штогод плаціць за зямлю «,87 USD». Акурат так, з коскай на пачатку.

Затое іншы турыстычны аб'ект Тапузідзіса, гатэль «Робінсан Клаб» на беразе Мінскага мора (Заслаўскага вадасховішча), адкрыты для наведнікаў з 2011 года. Напрыклад, тут звычайна спыняецца футбольная зборная Беларусі.

Пракат яхт, катараў і нават верталётаў — такі набор забавак знойдзецца мала дзе ў Беларусі. А яшчэ ў «Робінсан Клабе» ёсць свая канцэртная пляцоўка.

Тапузідзіс арандуе зямлю, каля 10 гектараў, на традыцыйныя 99 гадоў. І плаціць нямала — больш за $ 18 тысяч у год, прычым у валюце.

**Гарналыжны курорт Чыжа**

Гарналыжны комплекс «Лагойск», які належыць самаму багатаму беларускаму бізнэсмену Юрыю Чыжу, адкрыўся дзесяць гадоў таму. «Лукашэнка катаўся на лыжах у расійскай Краснай Паляне і літаральна загарэўся ідэяй стварэння такога цэнтра ў нас. Сказаў мне: «Юра, там мне аўстрыйцы ўвесь час мазгі дураць наконт будаўніцтва ў Лагойску гары, з'ездзіў бы ты, паглядзеў на тыя месцы і прыкінуў, што там можна зрабіць». Я прыкінуў іх моцныя і слабыя бакі, каб чужых памылак не паўтараць, а калі саспеў канчаткова, сказаў прэзідэнту, што «Трайпл» за гэта возьмецца. Прэзідэнту мае довады здаліся пераканаўчымі, і ён даў дабро», — расказваў Чыж гісторыю стварэння «Лагойска». У склад комплексу ўваходзяць гатэль і рэстаран.

Цікава, што за зямлю Чыж не плаціць. Распараджэннем Аляксандра Лукашэнкі бізнэсмен атрымаў 50 гектараў у пастаяннае карыстанне.

Іншае рашэнне кіраўніка дзяржавы датычылася будоўлі на малой радзіме мільянера, каля вёскі Сабалі Бярозаўскага раёна.

Паводле ўказа, «турыстычны культурна-этнаграфічны комплекс «Наш родны кут Сабалі» меўся быць дабудаваным у 2015 годзе. Пад будоўлю Чыжу выдзялялася 333,4 гектара зямлі.

Аднак замоўленым тэмпам працы мільянер пакуль што не дае рады. Створаная ім кампанія «Буслоўка» арандавала ўсяго каля 10 гектараў (штогадовая плата — каля 22 мільёнаў рублёў). У полі відаць толькі запраўку ды некалькі хатак.

**Паляванне Шакуціна**

Чым можа пахваліцца Аляксандр Шакуцін, дык гэта самым статусным кіраўніком свайго турыстычнага бізнэсу. Сёлета кампанію «Шантэр» (расшыфроўваецца як «Шыкоўны Адпачынак На ТЭрыторыі Радзімы») узначаліла Наталля Пяткевіч, былая памочніца Аляксандра Лукашэнкі.

Кампанія аб'яднала некалькі турыстычных аб'ектаў, раскіданых па ўсёй краіне. Шакуціну і яго́ным бізнэс-партнёрам належаць база адпачынку «Рудакова» на Нарачы (дарчы, побач з рэзідэнцыяй Тапузідзіса), санаторый «Пралеска» пад Мінскам і дзіцячы лагер «Даманава» ў Маладзечанскім раёне. Гэтыя аб'екты знаходзяцца на балансе «Амкадора» ўжо даўно.

А вось апошнім часам Шакуцін і яго навапалоцкі кампаньён Мікалай Варабей спецыялізуюцца на паляванні і рыбалцы. Яны ў роўных долях валодаюць кампаніяй «Інтэрсэрвіс», якая арандуе 58,6 тысячы гектара тэрыторыі заказніка «Красны Бор» у Верхнядзвінскім і Расонскім раёнах.

Ласі, дзікі, казулі — лік жывёлаў ідзе на сотні. Агучваліся нават планы разводзіць зуброў. Знаходжанне ў гэтым раі для паляўнічага каштуе дорага. Цэны ў мясцовым гатэлі пачынаюцца ад $ 200 за ноч.

Асобная крыніца даходаў — платная рыбалка. Для гэтых мэтаў «Інтэрсэрвіс» арандаваў шэсць азёраў непадалёку ад мяжы з Расіяй.

**Ягор Марціновіч**
**«Наша ніва»**

АБІТУРЫЕНТ – 2015

# ПОСТУПИТЬ НА БЮДЖЕТ, НАБРАВ 71 БАЛЛ

**Последний день приема документов на бюджет — 15 июля — показал, что не всем белорусским вузам хватило студентов. Университеты вынуждены брать даже тех, кто набирает меньше 100 баллов из 400. Особенно низкие проходные баллы в региональных вузах.**

Naviny.by подвели предварительные итоги поступления на бюджет по данным на 15:00 15 июля. После этого часа информация о ходе подачи заявлений не обновляется. В 18:00 приемные комиссии прекратят выдавать документы для подачи на другую специальность, но продолжат принимать у поступающих, которые успели зайти в здание вуза.

**Национальные университеты план, скорее всего, выполнят**

Биологический факультет Белорусского государственного университета заполнит бюджетные места, будут студенты и на платном отделении. К 15 часам было подано 203 заявления, а набрать планируется 156 человек на бюджет и 126 на платную форму. Судя по тому, как складывается конкурс, стать студентом этого факультета можно, набрав не менее 245 баллов.

Наберет бюджетников и исторический факультет — уже подано 124 заявления, а на бюджете 90 мест. Самые высокие баллы у трех абитуриентов — от 371 до 380, самые низкие — от 131 до 140.

Механико-математический факультет, скорее всего, заполнит все места — и платные, и бесплатные: на 200 бюджетных и 10 платных мест претендует 253 абитуриента. Судя по всему, непроходными станут баллы ниже 160.

Почти такая же ситуация на факультетах прикладной математики и информатики, радиофизики и компьютерных технологий.

Самые высокие баллы в БГУ у абитуриентов, которые подали документы на факультет международных отношений. У четырех баллы выше 391. На этом факультете будут заполнены бюджетные места, но платные, вероятнее всего, не все. Например, на специальность «международные отношения, международное право» есть 24 бюджетных и 124 платных места, а заявлений только 64.

Среди естественнонаучных специальностей самые высокие баллы у абитуриентов на химическом факультете — трое набрали выше 391 балла. Столько же у одного поступающего на факультет прикладной математики. Еще один абитуриент, поступающий на бюджет, имеет баллы выше 391 на факультет журналистики.

Впечатляют баллы абитуриентов, поступающих в Белорусский государственный медицинский университет. У двух баллы выше 391, у 21 — от 381 до 390, у 35 — от 371 до 380, у 61 — от 361 до 370. Судя по динамике подачи документов, будут заполнены и бюджетные, и платные места.

В БГУИР заполнены практически все бюджетные места, самый высокий проходной балл сформировался на специальности «экономика электронного бизнеса» (364) и «программное обеспечение информационных технологий» (360).

**Уровень базовой подготовки будущих педагогов катастрофически падает**

Белорусский государственный педагогический университет вновь принимает на некоторые специальности (14 из 28) без вступительных испытаний абитуриентов, окончивших школу с золотой или серебряной медалью, а также тех, кто окончил ссузы с отличием.

В 2014 году такой возможностью воспользовались и подали документы 79 медалистов и отличников. Это в четыре раза больше, чем в 2013-м ранее. В этом году хотят стать педагогами 117 медалистов, но без экзаменов пока только порядка 60.

Судя по активности абитуриентов, бюджетные места будут заполнены, но при этом баллы поступающих порой удручают. Например, на 125 бюджетных мест физико-математического факультета подано 106 заявлений, из которых у одного абитуриент менее 100 баллов, у шести — 111-120, у 12 — 121-130. Только один абитуриент, поступающий на этот факультет, может похвастаться приличной суммой баллов — 361-370.

На факультет начального образования подали документы 172 человека на 105 бюджетных мест, из которых только 35 человек набрали более 200 баллов.

На специальность «логопедия, олигофренопедагогика, сурдопедагогика, тифлопедагогика» высокие баллы (331-340) только у одного абитуриента. Еще двое поступающих на исторический факультет набрали 321-330 баллов.

**В регионах стать студентом еще проще**

Абитуриенты, поступающие в региональные вузы, демонстрируют очень низкий уровень подготовки.

Так в Барановичском университете на инженерном факультете на специальность «информационные системы и технологии» подано больше заявлений, чем есть бюджетных мест (59 против 36). При этом, судя по баллам, студентом можно стать, набрав 145 баллов, а на специальность «экономика и организация производства (машиностроение)» достаточно 120 баллов.

Самые низкие баллы у абитуриентов инженерно-педагогического факультета Мозырского государственного педагогического университета, студентами которого могут стать два абитуриента, набравших 71-80 баллов, пять — 81-90, шесть — 91-100, два — 101-110 баллов. Здесь на 30 бюджетных мест на специальности «профессиональное обучение (строительство)» и «профессиональное обучение (агроинженерия)» подано 18 заявлений. Так что если придет абитуриент с еще меньшими баллами, его примут с распростертыми объятиями.

Кроме того, в университете остались три места на бюджет на «математику и информатику», а также одно место на «русский язык и литературу».

В Гродненском государственном университете на все факультеты, за исключением физико-технического, количество поданных заявлений больше, чем бюджетных мест.

**Читать полностью: http://naviny.by**



РАШЭННЕ САЎМІНА

# НЕ ВЫДЕЛЯТ ДЕНЬГИ НА ПОХОРОНЫ ТУНЕЯДЦЕВ

**Правительство Беларуси утвердило новое положение о порядке выплаты гражданам пособия на погребение и порядке возмещения расходов на погребение специализированной организации.**

Положение утверждено постановлением Совета министров №585, текст которого опубликован на Национальном правовом интернет-портале, и вступило в силу с 12 июля 2015 года.

Согласно документу, пособие выплатят в случае смерти:

— застрахованных граждан,

— граждан, которые не были застрахованы, но в течение не менее десяти лет уплачивали взносы за государственное социальное страхование,

— пенсионеров,

— официально зарегистрированных безработных,

— несовершеннолетних детей граждан, относящихся к вышеперечисленным категориям,

— а также обучающихся — студентов дневной формы обучения.

Госпособие на погребение будет выплачиваться гражданину, который взял на себя организацию похорон. Исключение составляют лица, которые имеют право на возмещение расходов на погребение в соответствии с обязательным страхованием от несчастных случаев на производстве и профзаболеваний. Выплату пособий будут осуществлять местные органы соцзащиты.

Перевод пособия за пределы Беларуси производиться не будет, кроме некоторых исключений.

Положение определяет также порядок выплаты пособия и порядок возмещения расходов на погребение специализированной организации.

Размер пособия представляет собой среднюю заработную плату рабочих и служащих в республике за позапрошлый месяц относительно месяца наступления смерти. В мае 2015 года эта сумма составила 6,5 млн. рублей.

«Прям прет забота в лице самого социально-ориентированного государства в Европе»

Данная новость вызвала бурное обсуждение в Байнэте. Вот что пишут на форуме TUT.BY

«А земельные участки хоть выделят? Или тоже нет?»

«Вот чёта мне кажется, что умершему всё равно, как и что будет с его телом, или чиновники по-другому считают?»

«Капец. Теперь к брошенным младенцам добавятся выброшенные мертвые взрослые. Куда катимся?»

«Прям прет забота в лице самого социально-ориентированного государства в Европе»

«На смертном одре теперь надо звать не священника, а соцработника, что б успел зарегистрировать официально безработным».

«Можно просто складировать сабж под зданием парламента, сами грабли придумали, вот пускай сами этими граблями по лбу и получают»

«Собственно к чему эти полумеры? Запретите продавать еду тем кто официально не работает, отключите свет и воду.Есть только один вопрос: а миллионы безработных уже власть не пугают?А что как они объединятся и начнут безобразничать?»

«И такие вот законно-перлы перед выборами)))))Видно этим хотят поднять процент голосующих за них))))))))))))))))))»

**Марина Светлова**
**http://gazetaby.com**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч
**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.
**Падпісана да друку 28.07.2015 у 18.30**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.